## *Малітва ЛЕСІ БЕЛАРУСКІ*

Калі ў снежаньскім нумары часопіса “Полымя” за 1997 год і ў бюлетэні Усебеларускага жаночага фонда Еўфрасінні Полацкай “Жанчына. Планета. Будучыня” за 1999 г. з’явіліся публікацыі Лесі Беларускі пад назваю “Малітва да Калымы”, цяжка было прадбачыць узрушаную рэакцыю літаратурнай грамадскасці. Даволі займальна прагучала і біяграфія Лесі (Ларысы Марозавай з Маладзечна), што была расказана вязнем лагера “Эльген” В. А. Малагушам. Але так як пазней аказалася, што многае з расказанага Васілём Андрэевічам не падцвярджаецца архіўнымі росшукамі, спынюся толькі на асобных момантах. Па словах Малагушы, сустрэў ён прыгожую беларуску ў тым жа лагеры, і хутка даведаўся, што арыштавалі тую на вяселлі. Тады ж забралі і маладога афіцэра Марозава. Сказана было, што займалася Ларыса эзатэрыкай і прадбачаннямі, таму перад высылкай на Калыму адбываліся ў яе сустрэчы нават з Яжовым, які пасля апекаваўся прыгажуняй і ў лагеры. Час пакажа, што тут праўда, а што — творчы вымысел. Чаму творчы? Таму што падчас нашай сустрэчы Малагуша быў заняты празаічным творам і, магчыма, сумяшчаў факты памяці з сюжэтам мастацкай працы. Паводле пададзенай ім біяграфіі Ларыса Марозава мела ў лагеры два псеўданімы: Эрынія і ЛЕСЯ Беларуска. Згадаю, аднак, як адбылася наша сустрэча з Малагушам. Недзе ў другой палове 1996-га праходзіў праваабарончы кангрэс Усебеларускага жаночага фонду святой Еўфрасінні Полацкай з прысутнасцю ўдзельнікаў з Беларусі, Украіны, Расіі, іншых краін. Аб’яўляю, як вядучая, выступленне прыведзенага М. Кляшторнай Васіля Малагушы. Да гэтай першай сустрэчы з вязнем Калымы пра Лесю Беларуску, прызнаюся, чула вельмі мала. Смутна згадваю, што Мая Тодараўна паказвала мне невялічкую газету, дзе было ўпамінанне пра беларускую “калымчанку”. Былі ў допісе і асобныя яе радкі, здаецца, на рускай мове. Магчыма, публікацыя належала А. Кобец-Філімонавай, і за гэта ёй трэба падзякаваць. Але былі тыя вершаваныя радкі, як на мой густ, такія невыразныя, што адразу ж заглушылі ўсялякі інтарэс да іх аўтаркі. Біяграфія, праўда, была адметная, але, на жаль, не падцверджаная

творчасцю. У гэтай сувязі яшчэ ярчэй успыхнула асоба Ларысы Геніюш, якая не толькі выстаяла, але і стварыла цудоўную літаратурную спадчыну. І вось — новы круглы стол фонда, на якім постаць “калымчанкі” зноў узнікла на маім даляглядзе. Тады і папрасіла прысутную А. Канапельку сустрэцца з Васілём Андрэевічам і занатаваць усё, што вядома таму пра паэтэсу. А ў першую чаргу пра літаратурную спадчыну. Прачытаўшы пасля занатаваную Канапелькай біяграфію, заўважыла дэдэктыўную міфалагізацыю, асабліва ў апісанні ўзаемаадносін паэтэсы з магутнымі асобамі тагачаснага ЭНКЭВЭДЭ. Насцярожылі і яе эзатэрычныя ўхілы. Але, магчыма, было такое ў хаду на Беларусі не толькі ў нашы дзевяносітыя, але і ў далёкія трыццатыя-саракавыя. А. Канапелька прынесла тым часам зробленыя яе дасведчанай рукой запісы пэўных тэм калымскай Эрыніі, у якіх нічога асабліва зноў я не выдзеліла. Ну, ужо добра вядомыя па іншых публікацыях лесапавал, печка ў бараку, сяброўкі, сум па кінутых на радзіме дзецях, згадкі пра горад кахання... Асобныя павароты, штрыхі, словазлучэнні. Былі нават радкі пра жаночае лідэрства, Еўфрасінню Полацкую, абарону чалавечых правоў, але гэта, вядома, не магло належаць пяру тагачаснай аўтаркі, якая і чуць не магла пра антураж сучаснага жаночага руху. Але вось — новая канферэнцыя, на якой адбылося ўручэнне медалю Святой Еўфрасінні Полацкай знакамітым жанчынам, у тым ліку, Стэфаніі Станюце і слыннай Ліне Кастэнка. Пра Лесю Беларуску і не згадвалася. І ўсё ж інтарэс да “калымскай тэмы” ўспыхнуў ува мне менавіта тады. І невыпадкова. Ёсць у Ліны Кастэнка верш “Свіцязь”. Якраз пабачыць гэтае возера украінская паэтэса і зажадала на другі дзень канферэнцыі. Не буду распавядаць пра падрабязнасці тае незвычайнай “прыгоды.” Але расказаць увогуле ёсць пра што. У машыне нас было чацвёра. Акрамя мяне, львавянка Н. Смаляна, Ліна Васільеўна і Х. Лялько за рулём. Аднаму Богу вядому, які хуліган паслабіў гайкі ў колах і падпіліў тармазы аўто... Але, як сказала тады Кастэнка, уратавала нас хіба што сама святая Еўфрасіння. А ў Мінску ўвечары ў гатэлі нас ужо чакала пабялелая прадстаўніца украінскага пасольства, каб адразу ж адвезці Ліну Васільеўну на вакзал да цягніка. Гэта быў сапраўдны шок, што, як аказалася, не

мінуўся марна. Здаецца, менавіта ў тым абвостраным адчуванні смяротнай небяспекі душа неяк па-новаму адклікнулася на калымскую тэму, пераносячы літаратурныя асацыяцыі у тыя страшныя баракі, у той віхор снегу і ветру, які пранізвае чалавека да касцей. Здаецца, недзе за месяц-два падборка Лесі Беларускі высвеціласяу душы і загучала на трагічнай ноце ўкрыжавання: "Толькі з-пад снегу чарнеюцца трупы, нібы шматкроп'е песні Вякоў", альбо "Цвік забівае хтосьці ў ногі мне. І ў галаву... І выцягнуць няможна." Быў якраз канец дзевяностых, калі многія па-новаму асэнсавалі духоўную спадчыну. Тады ж, пасля заснавання фонду Святой Еўфрасінні Полацкай, пачала пошукі свайго шляху да Храма і я. Дарэчы, А Канапелькай адначасна былі занатаваны тады асобныя тэмы, геаграфічныя назвы, словазлучэнні, што ў далейшым натхніла мяне на паэтычны ўздым. Так і распачаўся вершаваны цыкл "Малітва да Калымы" пасля чаго пачаўся перадрук вершаў у газетах, анталогіях, кнігах пра вязняў ГУЛАГУ. Аўтарка адной з публікацый пра Лесю Беларуску, не вкедаючы дакладна ні праўдзівай біяграфіі, ні рэальнанга аўтарства калымскай публікацыі, проста выказала захапленне сілай паэзіі:" Лично я считаю талантливую поэтесу открытием ХХ века. Более того, я убеждена, что надо обязательно издать сборник ее стихов и возвести памятник...». Расцэньваць гэта можна адно як высокую ацэнку вершаў, так як проста арыгінальная біяграфія можа стаць цікавай для чытачоў толькі пры наяўнасці моцнай літаратурнага падмурку... Але вось прамінула дванаццаць гадоў, і я падымаю свае архівы, дзе шмат якія "калымскія" вершы напісаны на пажаўцелай палымянскай паперы з рэдакцыйнай рамкай наверсе. Нядаўна, у гаворцы з Аленай Сямёнаўнай Васілевіч, згадалі мы пра тое, як М. Валошын пасля гаворкі са сваёй знаёмай прыгажуняй, так натхніўся, што нават надрукаваў напісаныя вершы пад іменем гэтай графіні, аб чым доўга не здагадваліся нават самыя чуйныя даследчыкі паэзіі. Згадалі і пра тое, што ідэя "мёртвых душаў" была падказана Гогалю самім Пушкіным. Нешта падобнае здарылася са мною і зусім нядаўна, калі падчас напісання "Пакліканых" раптам аб'явіліся малітвы Еўфрасінні Полацкай! Расказала пра ўсё, што звязана і з малітвамі Еўфрасінні Полацкай, і з

Лесяй Беларускай пісьменніцы Святлане Алексіевіч, і тая супакоіла: “Никакой мистики, просто вся ты была в материале. И еще — талант...» Калі ж гаварыць пра “Калымскую” падборку, то тут ёсць інтарэс найперш для стылістаў. Так, пэўныя вершы былі напісаны мной на грунце падрыхтаваных Алай Канапелькай і запалых у душу тэм, штрыхоў, каларытных геаграфічных назваў, сюжэтных рукаўчыкаў. Але ключавую ролю ў натхненні і тагачасных адчуваннях сыграў момант блізкасці смяротнай небяспекі пасля аварыі па дарозе да Свіслачы, калі ўсё вакол нечакана абвострана набыло для мяне новае драматычнае гучанне. Бо раптам пранікла, амаль у бяспамяцці, праз цемнату дзесяцігоддзяў у той бязлітасны снег і задуху перапоўненых баракаў, псіхалагічна “перасялілася” ў ледзяныя аковы, пачула блізкі брэх ваўкадаваў, убачыла над сабою цвікі і занесенны рукою вартавога ў бушлаце молат. Пасля публікацыі ў “Полымі” месяцы два моцна хварэла. Што да рускамоўных публікацый Лесі Беларускі, то найперш варта згадаць пераклад пяці вершаў, змешчаны Галінаю Умывакінай пад назваю “Кремлевский орел и Эриния»(Масква, «Новая газета» номер 60, за 30 октября-5 ноября 2000 г.) з невялічкай прадмовай А. Хлебнікава. Праз пэўны час падборка “Малітва да Калымы” займела сваё годнае месца на старонках майго новага зборніка “ Свяча Любові”(2006). Цяпер, на пытанне, чаму пасля тых першых публікацый “Малітвы да Калымы”, не з’явіліся новыя вершы, паясню, што таму перашкадзіліла аб’ектыўна-суб’ектыўная сітуацыя: у мяне якраз пачаліся аперацыйныя праблемы са здароўем, пасля чаго на стале занялі сваё месца“Пакліканыя”.

І ўсё ж колькі думак адносна прапанаванай Малагушам біяграфіі. Ёсць у мяне нататнік Васіля Андрэевіча. На скураной вокладцы пазначаны год — **1984.** Першая старонка “Уроки Эринии” мае ўжо з іншую дату:“весь 1946 до 2 октября 1947”. Збоку запіс “декабрь 1945”. На адгорнутай старонцы ў форме эпіграфа даволі цікавая цытата з Д. Дзідро:“Чудеса там, где в них верят, и чем больше в них верят, тем чаще они случаются”. Правая старонка таксама адметная. Уверсе напісана — **Валентина Михайловна** (*Валянціна Міхайлаўна Коўтун?— В.К.).* Затым — **Леся Белоруска (Эриния).** Пад гэтым — верш.

“Откровеніе”, што ўяўляе сабой пераклад радкоў з “палымянскай” падборкі. Для мяне асабіста было важным тое, што ў самым пачатку нататніка ёсць выразнае ўказанне на літаратурныя асобы. З аднаго боку — Эрынія.

З дугога пазначаны тры адрасаткі Вялянціна Міхайлаўна, Леся Белоруска і, у дужках, Эрынія. Дык хто ж яна, носьбітка цікавай біяграфіі?... Літаратурны персанаж? Рэальнасць? А, можа, і тое і другое? На Калыме сапраўды магла быць беларуска-прыгажуня, якая цікавілася фальклорам, добра спявала і сама стварала песні. Была і другая... Звязана з эзатэрыкай і рознымі прадбачаннямі, якою апекаваўся сам Яжоў!, — адна з тых “Эрыній”, якія, згодна з энцыклапедычнымі звесткамі, ператварыліся з пачварных і крыважэрных захавальніц свету мёртвых у багіняў промсты! Магчыма, ўсе падмечаныя рысы характару ўвасобілася і ў адной асобе... Эрыніі? Лесі Беларускі?

Спыняюся на думцы, што на шляху Васіля Андрэевіча магла быць не адна “Эрынія”. І сярод іх, пэўна ж, была яшчэ **і тая** беларуска, што хавала свае паэтычныя запісы пад коўдру, **і тая,** што закахана, нават у пекле лагеру, прысвячала вершы каханым... Але — хто яна? Адкуль родам? У нататніку знаходжу дзіўны запіс ад 1946года: “ **Лесе Б. “Кажись, ты родом из Полесья,\\ Себя безродною звала.\\Нет, не безродная ты, Леся.\\Ты, друг, поэта** (*пэўна, самога Малагушу— В.К.)* **родила. Безбожно пытанная Горцем...”** Далей — без асаблівай рыфмы.“Но мир запомнит девичьи черты. Когда б не ты, не быть, Леся, стихотворений, і не любить бы мне, когда б не ты.”Як бачым, ніякіх упамінанняў пра канкрэтную мясціну народзінаў. У гэтым сэнсе радзімай уяўнай “калымчанкі” можа быць любы горад Беларусі. І гэта — сімвалічна. Так што згадка пра Маладэчна ў памяці Малагушы хутчэй звязана...з бабуляй самога Малагушы, якая нібыта ў Маладзечна нарадзілася.

Зрэшты, падобных момантаў, што сведчасць пра недакладнасці ў выкладзенай Малагушам біяграфіі калымчанкі, нямала. Міжволі згадваю нашы даўнія сустрэчы з Янам Скрыганом, Сяргеем Грахоўскім. Сустрэчы даверліва-творчыя, зацікаўленыя. Але як толькі гаворка дакранулася той самай, “гулагаўскай” паласы жыцця, былыя вязні адразу замаўкалі. Нібыта нават паўсловам не хацелі

згадваць пра той час, які Малагуша ўмясціў у такое кароткае Ад”.

Нарэшце, амаль што на завяршэне, знаходжу такі запіс у нататніку: **“Эр.(***Эрынія — В.К.)* **Эксперимент мой закончен, конечно. Гипотеза обрела точность. Слушай, отец мой, отец Малагуша, Твоя дочь экзамен прошла на прочность.**” І ўсё ж — зноў пра Эрынію і Лесю Беларуску. Так, **Эрынія** — гэта біяграфія, подступы Малагушы да сваёй сагі пра пекла. Але **Леся Беларуска** — тыя навеяныя, пасланыя самой Калымою вершы, што былі створаны ў нашым часе і надрукаваны спачатку ў “ Полымі” 1997 года , а цяпер — у Ліме”.**“***Эксперимент мой закончен...”* Так напісала ў нататніку Малагушы Эрынія.

У кожнага эксперымента ёсць і пераможаныя, і пераможцы. Але толькі не ў дадзеным выпадку. Ёсць толькі... далёкія лесапавальныя ахвяры. Ёсць тыя цвікі, якімі і сёння яшчэ прыбіваюць памяць нашага народа да ледзянога крыжа гістрыі. Гэта тыя дзесяткі і сотні пакутніц, што не змаглі вярнуцца, не мелі магчымасці спраўдзіцца, але — не зніклі! Проста даверыліся гэтыя маўклівыя цені сакральна, па незразумелых яшчэ людзям, законах, менавіта “Малітве да Калымы”, што дапраўды стала іх агульным ПОМНІКАМ. Іх нябачнай, але заўжды такой адчувальнай ПРЫСУТНАСЦЮ ў нашым часе. І пазачасава. Магчыма, калі-небудзь знойдуць сярод увязненых нават Ларысу Марозаву. Магчыма, знойдзецца нават літаратурная спадчына каго-небудзь з сотняў і тысячаў. Але “Малітва да Калымы”, веру, застанецца аблiччам скрываўленых ільдоў. Паводле меркавання Алега Лойкі, які прыняў удзел у мінулагодняй дыскусіі, праведзенай штотыднёвікам “Лім”, асоба Лесі Беларускі не магла не з’явіцца. І далей: “Хай жа творчасць, што нібы прыпісаная ёй, і не яе, хай жа гэтая творчасць застаецца ў гісторыі гіпатэтычна, міфічна, адной з версій таго, што нібы было і чаго нібы не было. Гэтым мы толькі ўзбагацімся...”Яны былі. Дзесяткі, сотні і адзінкі. Некаторыя нават сустракаліся з Малагушам. І спявалі. І закохваліся...

І стваралі песні нават у пекле такога няпростага XX -га стагоддзя...

Хто ж яна, каму ў сваім часе і на гэтым свеце мне даверана было стаць двайніком?..

**Валянціна КОЎТУН**

## МАЛІТВА ДА КАЛЫМЫ

### Малітва да Калымы

Даль засцілае імгла...
Тут – ні хлябоў, ні любві...
Матухна – Калыма,
Не пагубі, не ўмярцві!
Месяц завіс залаты
акрайчыкам хлеба ўгары.
Матухна – Калыма,
Голадам не замары!
Белая даль навакол,
ты нас імглой агарні:
У небе – крамлёўскі арол.
Матухна, абарані.
*Магадан. Перасылка. 1939*

### Зварот да сябе

Валім лес, вайну нагадуючы...
Так,
на ёй ты — салдатам была.
Стогнуць, падаюць дрэвы, бядуючы.
Ліпкім болем крываваціць смала.
Сцяўшы зубы, трымай усмешку.
(Хоць і рана на левой назе!)
Сёння трэба —
належыць! —
уласную сцежку
Прабіць у тайзе.

## Арган

Ляжыць арган свяшчэннай Калымы.
І ўся зямля ў тайзе спакою просіць.
Іду ў снягі суровае турмы.
І побач — мой анёл праставалосы.
Не спіць арган пакуты і тугі.
Трывожыць нас,
               і рук свіцяць бярозы.
Паміж ірвоў, як па лязе тайгі,
Іду — і наступаю зноў на слёзы.
Хрыпіць арган. “Эльгенскія” гады.
Паміж ільдзін кружацца зорак восы.
Хрыпяць вятроў крывавыя лады.
Пад хор анёлаў
               душы нашы ўзносяць.
Грыміць арган. Бязмежжа круг кране.
На просеку брыгаду зноў прыгналі...
Вы прызнавалі мёртвую мяне.
Але чаму жывою — не прызналі?
Крычыць арган, як норы ўсіх звяроў.
Бушлат. Піла...
Адна, пры ўсім народзе,
          іду ў снягі па клавішах сяброў.
А нехта заўтра
               і па мне так пройдзе.
Застыў арган.
               Барак хрыпіць у сне.
І печка зноў так ціхенька галосіць...
Маўчыць арган у вечнай мерзлаце.
Арган касцей,
          прадзьмутых ветрам лёсу.
*Лагер “Эльген”, 1945*

## Вечная мерзлата

Не толькі ля Полюса холаду.
 Не толькі
          ў нябёсах пустых...
Яна —

расстраляная змоладу —
у сэрцах
знямелых
людскіх.

*Лагер”Эльен”, 1946*

## У лесе

Невядомая для свету паэтэса,
дрэў паўночных гладжу я кару
казачнага лагернага лесу...
І з ахвярамі сякеры гавару.
Стойкай шахты стане дрэва-цуда,
альбо домам,
альбо мачтай карабля...
Ці тым самым нашумелым навабудам,
дзе шумела маладосць мая.

*Лагер "Эльген", "Цёплая Даліна", 1946*

## Рэпліка таёжнага філосафа

*Сябру першародства,*
*Духу Продкаў прысвячаю*

... То абыякавасці глетчар,
то льды сардэчнай мерзлаты.
Цішэй, мой сябра,
шчэ не вечар,
а наступленне цемнаты.
Мой сябра, Дух далёкіх Продкаў,
клянуся гонарам сваім:
калі мне час — у шлях кароткі,
расстрэленай ступлю па ім.

Апошні крок — з Радзімай мілай,
нібы з дзіцяткам, на руках...
Яе ўтрымаю над магілай —
Ёй жыць пасля мяне ў вяках.

## Мой свет

Яго чарнілі. Рабавалі. Гналі
На плаху.
Наразброд.
На Калыму.
Аднак жа вышыню яго прызналі,–
І шанс быў дадзены у горкі час яму.
Каб выжыць і сабою тут застацца,
У кулаку свой лёс заўжды трымаць,
Па-над хлуснёй і смерцю
зноў — узняцца
І гонар свой, свой свет паратаваць.

## Апафеоз

Смяяліся з пакутаў, жартавалі.
Тайгі галіны, як абдымкі сёстраў.
У пекле мы любілі і спявалі
такія песні!
З гумарам. І востра.
З такой адчайнай цішынёй...
І — смехам...
Хоць рот забіты
цвёрдым, шорсткім снегам.
Застыла ў зрэнках Калыма навекі...
І рук ільдзінкамі
зноў пішуць вершы
зэкі...
*Бальніца “Левы бераг”, 1944*

## Выстаю...

Выстаю ў журбе
скразной няверы.
Але гэтак дадзена спазнаць —

У спіну ударань стрэлам дзверы
так, што боль, здаецца,
не падняць.

Воз цягнуць, каб аж гулі пастронкі...
Не хачу!
....і свіснуць бізуны.
Толькі б чуць мне
з роднае старонкі, што...
“Пятлю зняла! Няма віны!”
Толькі б чуць...той судны голас!
*Бальніца “Левы бераг”, 1944*

**У тайзе**

Паратаваны мной — прылёг у рове.
Ён, ледзь жывы,
вярнуўся з небыцця.
Ён, як і я, ўжо тым жыве ў патолі,
што тут ЖЫЦЦЁ ёсць...
даражэй жыцця.
Ён, як і я, прыгубіць кубак з мятай,
што мне прыслалі з роднай стараны.
Глядзім праз дым...
Нібы глядзім праз краты,
альбо з акопу доўгае вайны.
Паратаваны мной — мяне ратуе.
Падкідвае у вогнішча сушняк.
Ён чуе — гэтак!
Як і я, ён — ЧУЕ...
Ляціць жыцця вагонны паражняк.

**Цішыня**

*Ім, якія заўчасна пайшлі з жыцця, —*
*вялікім мучаніцам-лагерніцам*
*Паўліне Мельнікавай, Лялі Кларк, Асі Гудзь —*
*з болем у душы і любоўю прысвячаю.*

Над заснежанай далінай — цішыня.
А ва ўлонні той гаротнае зямлі

Бацькаўшчыны дочкі, як адна,
змардаваныя няволяй, паляглі.
Цішыня... I толькі голас не заціх
тых пакутнікаў збалелае зямлі
I нямецкія аўчаркі рвалі іх,
і свае, ва уніформе, кабялі.
Паланіла дом бяда сярод начы.
Крык дзіцячы: "Мама, мамачка, куды?!"
Абяцала: “Я вярнуся, не крычы...” —
I не ведала, што пойдзе назаўжды.
Крык дзіцячы – I цяпер ён у вушах.
А надзеі промень — праўда, што святы...
Вось ляжаць яны з ільдзінкамі ў вачах,
   у абдымках гэтай вечнай мерзлаты.

* * *

Зрадніцца ў час які змаглі
ікона і сякера – у Крамлі?!
Пакуль сякера ўсюды скача,
Заступніца паціху плача.
На цвердзь зямную ў час пагрозы
гарачыя раняе слёзы.
...Слязінкі тыя бачыш ты
        ў глыбінях вечнай мерзлаты.

**Помнік(*паводле Малагушы)***

Пастаўце мне помнік
        у горадзе родным.
Жанчына з граніту
сшытак вершаў сціскае ў руках...
Вось стаіць яна — горда і прама.
Наручнікі пад нагамі .
Надпіс просты: "Дачцэ нашай — Лесі.
Яна пагарджала гадамі рэпрэсій".
*Лагер "Эльген*, 1947*

**Лялечны тэатр**

Па снежнаму бар'еру лялькі ходзяць.
Гуляе ў лёсы ледзяны бар'ер.
За ніткі смерці
            іх артысты водзяць.
Гавораць тэкст за іх. На іх манер.
Ўсё гэтак дзеецца,
        нібы ў святочнай казцы.
Вачамі міргаюць, смяюцца, спіны гнуць.
Нядобра, калі гэтак, па падказцы
І думаюць, і пішуць, і жывуць...
Ці, можа, дзеці любяць жарты смерці?
Ці можа, дзеці хочуць пацярпець?
...Калі ў тэатры так табою
            верцяць.
...Калі вось так даюць сабой — вярцець!

**Лес валяць...**

*Лес валяць — шчэпкі ляцяць(прымаўка)*

Тут валяць лес ...
Піл і сякераў свята.
Кара і мох, як пайка для салдата.
Каля кастра наш брыгадзір Алена.
І ён гарыць. А вогнішча нядрэмна
палохае тайгі суровай дрэвы.
Ды знову — гах!..
        Сякера з маху свішча.
Так востра шчэпкамі ўразлёт
лісты дахаты...
            Пішам!

**Мне балюча**

Прыняла я свой боль немінуча.
Зону голай рукою не зняць!
Як баліць мне!
О, як мне балюча! —
Анікому той боль не суняць.
Меладычна бакалы і шклянкі
недзе ў шумным застоллі звіняць.

За іх звон трэба нам, паланянкам,
Вечна ў снежных сумётах ляжаць.
Хай сяброўкам
        па той бок “калючай”
шчасна будзе
            і жыць, і спяваць...
Як баліць мне!
         О, як мне балюча!
І нікому той боль не суняць...
*Лагер “Эльген”, 1948*

**Зоркі**

Зоркі...
Вы — браты мае і сёстры.
Ды сягоння паміж вамі ТОЙ узнік,
Хто лічыць...
Не гады.
Не гарады.
Не вёрсты.
Хто нашым душам
Свой адводзіць лік...

**Нашчадку**

Нашчадак мой,
         уведай праўды спраты,
запомні, у які жывеш ты век:
то не жалеза шчэ —
            замкі і краты...
Мацней жалеза —
вольны чалавек!

**На Дальняй**

*...паміж молотам і накавальняй...(з прыказкі)*

На золатам багатай Дальняй

Жыву — пяю...
Жыву — люблю. ...
Між молатам і накавальняй
удары лёсу я цярплю.

**ххх**

Нас выбірайце у лідэры, мужчыны!
У свеце Божым птушкі мы не скрыўдзім.
Час нас абраў. На тое ёсць прычыны:
Мацней — мы любім...
Меней — ненавідзім.
За ўсіх дужэй, напэўна, на планеце,
Жанчыны, — мы!.. І вам скажу цяпер:
вось я, слабая... Ды ўва мне, паэце,
здаецца, сіла — у сотні атмасфер!
Хлусня наскрозь у казачных зачынах.
Няўжо хтось верыць у кітоў, як немаўля?
Не на кітах Зямля, –
а на жанчынах...
На нас спакон
трымаецца Зямля!
А я — жанчына. І ўжо тым прыгожая.
А я — пакутніца, дачка дабра ў вяках.
Невыпадкова на іконе —
Маці Божая,
Як Бессмяротнасць
з Дзіцем на руках!

## Роздум

О думак бура!
Ўсё з напалам цігля!
Пераацэнка прававых вярыг...
А праўда тая, –
што на катарзе спасцігла,
вось з гэтых,
снегавых і вечных, кніг.
Дзявочыя усмешкі-перламутры
цямнеюць тут
і... сыплюцца ў снягі.

Адно:
душа
стае з гадамі…
мудрай,
подобнай да калымскае тайгі.

### Радкі аб любові

Не тая любоў, што квітнела ў цяпліцах,
ад пошасці свет берагла.
А тая, што мужна сцяной на граніцах
паўстала прад наступам зла.
Ужо — на паўсвету світае навечна
і сведкі жывыя ў тым — мы!
Ад Воршы, Ушачаў
і ад Маладзечна…
да матчыхі — Калымы.
*Лагер "Эльген", 1947*

### Еўфрасінні Полацкай

Сыходзяцца шляхі, нібы ў крыжы,
твой золатам убраны, мой – "калючай".
Як справядлівасць адстаяць, скажы?..
Няўжо заўжды
вось так было балюча?
Два вобразы над Беларуссю
бачны мне.
Хіба сляпец не ўгледзіць іх у дыме…
Нас дзве сястры:
адна на Калыме,
другая –у Ерусаліме.
Я ўсё стрываю і, як ты, змагу
прайсці жыццё упэўнена і прама.
Ты мураваныя апекавала храмы…
Я ж душы тут,
як храмы,
берагу.
*Лагер "Эльгенд", 1945*

**Чаму?**
*(Песня трыццатых гадоў)*

Ноч сумёты высокія лепіць,
З гора ноч звар'яцела сама.
Ўсюль сумёты… А бачацца – склепы.
Чорным крэпам злятае пацьма.
Над баракам – уснежаны вецер
Будзіць горкую памяць паўстаць.
Нібы плачуць галодныя дзеці,
Нібы сіраты плачуць, не спяць.
Чую голас дзіцячы пад ранак,
Працінае трывожна пацьму:
“ А куды павялі цябе, мама,
пад вінтоўкай, у ноч, і чаму?..”
Чорна-мёртвая панарама.
Боль зямны адплывае ў пацьму.
“ І чаму?”— Не адказвае мама…
Можа, скажа Масква?
Дык – “ чаму?..”

**Даччыное**

*Роднай Беларусі*

Я вораг — гвалтоўных акцый,
хлусні і пагардлівых жэстаў.
Я — часцінка цывілізацыі
ад Полацка і да Брэста.
Быў адказ мой заўжды: "Не здаюся!"
Хаця вораг змушаў да маны.
Вочы маці маёй Беларусі…
Палягчалі пакуты яны.
Давялося мне ў тыя гадзіны
і дачкой, і байцом яе стаць.
Беларусь, мы з табою адзіны:
па дыханні
і твары
нас можна пазнаць.
*1939*

**Што вязніцы трэба?**

Нараніцу і навечар —
Дыхання малую свечку.
Акрайчык неба.
Кавалачак хлеба,
Вады глыточак,
Любові расточак,
Ў народзе згоды.
Міру. Свабо-о-ды.
*Тайга, 1943*

**МАЛАДЗЕЧНА**

Душою “ маладой”
Яго сам Бог пазначыў…
Маёй любові быў дзевяты вал,
Калі ў пятнаццаць год
спатканне тут прызначыў
юнак, які мяне пацалаваў.
І засаромеўся
    тым сорамам адвечным,
        які бароніць чысціню:
– Не руш! Мой Маладзечна!
            Любы Маладзечна!
Мая навек святая Беларусь!
Я вершамі ўтаймоўваю пачуцці,
І аб табе начамі трызню тут:
Баюся зноў чужацкай каламуцці,
Каб не прыстаў да нас
        халуйскі бруд.
Салодкі сон душу маю мілуе,
Збаўляе ад пакутаў і нягод.
Салодкі сон… О як мяне цалуе
той хлопец у мае пятнаццаць год!
А хлопец той – смуглявы і чубаты…
Баюся прачынацца, не хачу:
Бо раптам то – не ён,
а… Век Дваццаты.
        Я ж – Беларусь.

І я даўно маўчу.
Зноў засаромелася стоена-бязвінна
І апрытомнела тады мая душа...
Як доўга мы стаім пад зорным ліўнем,
Як хораша блішчыць ля ног Уша...
Рака надзей адвечная блішчала,
Глыбіннай моцы музе надала,
І каб зямля мая
паэмай стала.
І каб праз пекла я прайсці змагла.

**Бяссонніца**

Трывожуся ўспамінамі да золку:
...будавалі светлую вясну...
Праўду папрашу, нібы сяброўку:
"Ляж са мной, гадзінку мо засну."
На зямным абледзянелым шары
Маразы...
Баракі...
Людзі спяць..
І гарацьу душах зноў пажары
...помсты.
І нічым іх не суняць
*Лагер 'Элыен", 1942*

**Слова ў дзень 9 мая**
*Землякам маім прысвячаю*

0 людзі добрыя, такое
дзеля мяне, прашу, зрабіце.
Заместа слоў: "Быў перапынак",
"Была на фронце" — напішыце.
Калі са смерцю вочы ў вочы,
Калі
да мерзлаты прыкулі,
а лагерны мароз штоночы
са слёз маіх выкоўваў... кулі,
...Я — берагла Айчыне вернасць

і ў тым жыцці сваім кайданным...
Вы напішыце.
        Хай паверацць!
І родны край.
І сябар даўні.
*Лагер “ Эльген”, 1945*

**Элегія**

*Аляксею Марозаву*

Я часта не валодаю сабой.
Сябе наяве мёртвай адчуваю.
І толькі,
    каб сустрэцца нам з табой,
жыву,
    і тут пакуты ўсяк трываю.
З мяне хацеў вяроўкі злыдзень віць,
што пры́ткі на любое катаванне,
Марозавых – марозамі ўмярцвіць! –
Такі прысуд для нашага кахання.
...Вось мой барак. І наледзь на акне.
Дзесяты год я тут, у льдах, закута.
...Як Праметэй. Ды веру, што мяне
Гефест пазбавіць –
        скончыцца пакута.
І вынішчу тады я кветкі зла...
І пад напеў пяшчотнага Бадлера
Дабра лілеі высаджу табе...
І вечнасць нам з тайгі — адкрые дзверы.
...Вось мой барак. І наледзь на акне.

**Прысягаю**

Прысягаю роднаму краю,
годнасцю дачкі яго
        клянуся :
паміраю, ціха паміраю...
Паміраю —
    толькі не здаюся!

**xxx**
...Стану для Айчыны
звонкой одай,
звершыцца з няпраўдай
судны бой.
Як сям'я... Адна —для ўсіх народаў,
О Беларусь...
Радзіма... —
Вобраз твой!
*Лагер "Эльген", 1941*

**Рута**

*ВАМ.*[1]

Будзем жывы — у садочку
мы пасадзім руту.
Ёй, чырвонай, у вяночку
зіхацець, як цуду.
Расці, рута, цвіці, рута,
як і нашы мары.
Прыйдзе час — мінецца смута
на зямным абшары.
Караніся, жывы корань,
набірайся сілы!
Ліхалецце, злое гора,
абміні край мілы!
Цвіці, рута, расці, рута,
да лістка лісточак.
Залячы ў душы той смутак,
Што чарней ад ночак.
Наша рута не завяне
і парою сцюжнай.
Яна песняй людзям стане,
светлаю і мужнай.
Паквітайся буйным цветам,
рута, за пакуту...
Будзем жывы — усім светам
мы пасадзім руту!

[1] *калымскі вязень Васіль Андрэевіч Малагуша*

**xxx**

Ўсяму спаможна ў полымі згарэць,
пакінуўшы ўспаміну толькі цень.
Над СЛОВАМ ісціны
Адно ...не ўладна смерць!
Яно паўстане...
Сведка ў судны дзень.
Яно паўстане...
Сведка — у крыві!
Каб зрынуць нам прысуд.
Каму — які?!
...Або праслявішся ў радзіме —
Чалавекам.
Або знясслаўлены
знябудзешся навекі.

**xxx**

Душэўны боль, як "сябар",
Абдымае. А памяць —
свежае дыханне спарыша...
Ледзь чутны стогн
мой слых паўсюль даймае... —
І ведаю,
што стогне так Душа.

**xxx**

У маладосці — салаўіна пела
пра гэты свет. Цудоўны і багаты.
Адно крывавае
Здавалася мне белым.
І цішынёй —
трывожных сноў — набаты.
Я думала свет дабраты... Ён вечны.
Але дайсці ўжо не магу да толку...
Чаму стаў грубым ён, бесчалавечным?
Не брату- брат ужо...
А воўк тут — воўку!

**У лагерным бараку**

Пішу і крэслю… Не, усё – не так!
“'Не сатвары куміра", — помню гэта.
Я апяваю лагерны барак,
а сопку называю цэнтрам свету!
Ноч. Дзверцы печы-бочкі адчыню.
Гарацьі… Гарацьі… Святло ліюць мне
дровы.
Бярвеннні пад паэмы загану,
а потым узвяду на іх і словы.
Смалой сасновай мой прапахне верш.
Пачатак свету бачу я нанова:
сляза жаночая…
Сляза была найперш.
І з той слязой пакутліваю – Слова!
З параненай душой нявеглы свет.
Сяброўкі спяць… І брыгадзір Алена
(куміра сатварыў усё ж паэт!)
спіць у цянётах зла — ўвесь боль “Эльгена.”
А над тайгою выспявае гнеў
і пагражае катам ён трывожна.
…Цвік забівае хтосьці ў ногі мне,
І ў галаву…
 І выцягнуць не можна.
Напоўніць сэрца мне трывожны звон.
Мы ўсе ў цвіках наскрозь — і я, і строфы!
Укрыжаваны лёс людзей спакон.
І ўся тайга — як грозная Галгофа.
*“Цёплая Даліна” 1947*

**Сястры**

Дум крылатых чароды ўначы
праляцяць над калымскай прасторай.
На лічыльніках ты падлічы,
О сястра,
колькі я паспытала тут гора.

Што ёсць праца

і пекла "прынуд"?..
Дзесяць год... Уявіць хіба можаш?
Падлічы,
колькі ў сутках мінут.
І на дзесяць гадоў перамножыш.
Як жа вымераць болю ў мінуце працэнт?
Спрэс жыццё стала гэтым працэнтам.
Калі ўсцяж над тобою — у дзірках брызент,
і ў паўсотню мороз — над брызентам.
Гэта ноч. Толькі ноч
Ад відна да цямна.
Дзень працуй...
Дзень працуй, што ёсць сілы.
Гэй, давай!"... Гэй, давай!"
Песня смерці адна...
Толькі— пілы, сякеры... Сякеры і пілы!
Прорва думак, і болю, і гора гара.
І сама ты — у пене бяссілай.
На Радзіме ўсё гэтае ведай, сястра,
каб мяне анідзе не забыла.

**ххх**

Бяссонніца крычала:
“Майна!”, “Віра!"
І памяццю паліла, як агнём.
Каб свет паратаваць, што можа ліра
між чорнай ноччу і холодным днём?..
Барак начны — адзінства ценяў, грацый.
Нямала з прыіскаў прыходзіць дзівакоў.
А я ўсё думала аб ратаванні нацый
усіх часоў і ўсіх мацерыкоў.
І крыжыкам, і гладдзю
сум расшыты.
Схуднелая...
Дзе тая прыгажосць?
Здаецца, школьны спісаны ўжо сшытак.
І ў ім усё, што мной пражыта, ёсць.
У ім — усё. Учора". "Сёння."
“Вечна.”

І нашых мрояў—
воблак залаты.
Я запісала ўсё — душой,
і неаспрэчна! —
Тут, на скрыжалях
вечнай мерзлаты.

**Сімволіка**

Быццё
жалезным долатам
расколата.
Пануе на зямлі
бедлам і вэрхал.
“Саюз" народы жне сярпом...
І молатам
іх па головах
лупіць зверху.
*'Мылга', 1947*

**Манады**

З гэткай верою ў бяссмерце —
смерць не страшна.
І перад вачмі ўсяе брыгады
стане ўпэўненай походка і адважнай, —
калі буду
адыходзіць у манады.
Палічыце гэты верш маёй распіскай.
Чаша выпіта да дна — жыцця і праўды.
І труна падасца лёгкою калыскай —
Адыходжу я з усмешкой
у манады.
І якая б ні была ў Айчыне ўлада,
хай прызнае тая будучыня ў скрусе:
...наша Леся адышла сама ў манады,
ворагам сказаўшы:
“ Не здаюся!"
*Лагер 'Эльген', 1948*

**ххх**

Наперадзе —
полюс усіх халадоў,
Ахоцкае мора —
пазадзе.
Між імі —
адно мая маладосць
з замерзлай слязой
у паглядзе.
*Бальніца “Левы Бераг”, 1944*

**Я сёння іншая**

Я сёння іншая, бясспрэчна,
мяне з рудой век пераплавіў.
Ды горад ціхі Маладзечна
Мацней, чым я,
ніхто не славіў!
Мая душа з любві нямее...
Край продкаў мілы, я клянуся:
так аніхто любіць не ўмее,
як я,
далёкай Беларусі.
Адкуль бярэцца толькі сіла?
Сцярплю ўсе мукі і
ўсе болі
Дзеля Айчыны маёй мілай
ступлю у полымя любое.
*Лагер “Эльген, 1945*

**У бараку**

Я... Бабуля ў бараку...
І — мама.
Напаўголасу з вечным на “ты”.
Адчыняем апошнюю браму,
дзе хлябы, як таежныя льды.

Суцяшаюць: “Жывы твой каханы”.
Хоць “калючай” усцелены шлях.
Бачу вылюдка з чорным наганам.
Бачу —
любы ляжыць у снягах.
Чую вечнасці горняй Матулю.
Па прылаўку —
рассыпаны кулі...

**Дарога з келлі святой Еўфрасінні**

Вяртаючыся з Полацка у Спарту,
У гэты грэх, у тлумную душу,
Я на пергаменце,
што вырваны з асфальту,
Сваю любоў бяскроўем напішу.
Ляціць аўтобус праз чужыя ночы...
І хруст крыла...О, Маці, блаславі
Хоць раз пабыць — на
найсвяцейшых мошчах
Адно маленькай кропелькай крыві.
Дзе б ні была... Ці ў мілай Беларусі,
Ці на кавадле грознай Калымы...
З табой, матулька, і мяне у скрусе
Лагодзілі таежныя грамы
Ляціць аўтобус горда і бяссіла,
О, Найсвяцейшая, на хлебе і агні
Пяром з крыла святога Гаўрыіла
Мне сэрца, Маці, сёння разапні.
І я прыйду да ўсіх, каго ў трызненні
Убачыла, замерзлая ў снягах...
Прымі ж мяне, бы калісь на калені
Звяла ЯГО з высокага крыжа.
І я прыйду да ўсіх, каго у мроях
Убачыла, прыбітая да дрэў.
Здымі ж з укрыжавання ўсіх нас, Маці.
І — адагрэй.
О Найсвяцейшая...

**КАТРЭНЫ**

**xxx**

Да братэрства ўсіх народаў
я імкнуся,
духоўных вылюдкаў
зрынаючы у прах...
Мяне ў Айчыне
катавалі беларусы.
І ратавалі латышы —
у лагерах.

**xxx**

Бяда агульная.
Яна усіх кранулася.
Планета сутаргава
крышыць рубяжы...
Зямлі баліць.
І неба скаланулася
ад вероломства,
подласці,
ілжы.

**xxx**

“Не плач, сябровачка...”
На ноч пяюць дзяўчаты.
А сэрца точыць, точыць тля нядолі.
Не паслабляюць словы
боль зацяты.
Яго прыцішыць можа
толькі —
Воля.

**xxx**

З людзьмі я ад болю
канала сама.
Ў крэп чарнаты —
спавівалі.
Між вечных снягоў тваіх
мы,
Калыма,
свет божы навек пакідалі...

## Пурга

Разышлася пурга.
Крышыць межы і лёд.
Рве нябёсы на шматы з размаху.
У тайгу я іду.
Мой бушлат — уразлёт!
Я нагадваю птушку без страху.
Я — у неба крычу:
— Ты ламай, ты крышы
гэту цвердзь, да якой мы прыкуты.
Па ўсіх “зонах калючых”
мой — боль заглушы...
І бясконцы пякельнай—
                    пакуты.
Сунімала адчай.
Цераз сілу жыла.
Адгарэла калымскаю одай.
Каб зарою світальнаю
Воля ўзышла
....над адзінствам людзей.

І — народаў.

## Прызнанні(*паводле Малагушы*)
## І.А.Буніну

Замежная — сапраўдная Расія.
Увысь. Ушыр... Углыб — усё яна!
Дзе талент з мудрай думкай, там і сіла!
Ад сцен заходніх — і да Харбіна.
Сыны Расіі...
            У ліхіх трыццатых
вы, хто раднёй мне сёння(не хлушу!),
калі стаяла нада мною неба ў кратах,
свяшчэннае святло ўлілі ў душу.
Свяшчэннае святло...
Калі наўкол разруха,
            і мы каналі ў кіпцюрах арла,
Час перамогі Праўды і Святога Духа

вы набліжалі над цвярдыняй зла.

**xxx**

Не абдыме ніхто неабдымнага,—
Сведчыў так усезнаны Пруткоў.
Толькі я –
сведка сплаву трохмернага:
Дурняў.
Мудрых.
І вечных рабоў.

**xxx**

Усе улады “оные”
ў жоўтае ўлюбёныя.
А сцягі ж — чырвоныя.
А трава ж — зялёная.

**xxx**

Баюся, што бяспраўе па правах
Страляць пачне. Шрацінамі параніць.
Ты не сумуй...
Зноў душны лагбарак
Маёнткам нам для паланэзу стане...

**xxx**

Вышынёю неба ганарыцца.
Зноў арлы — над зонаю калек.
Але ім ніколі не зраўніцца
з вышынёй тваёю,
Чалавек.

## ПЕРАДАПОШНЯЕ

### На нарах

І на нарах... калі —
у таежным хляве,
як маленькі баранчык, скручуся...
Не адна я пад коўдрай.
Мяне саграеш... ты, матуленька,

ты, Беларуся.
Па шчацэ у мяне
льюцца слёзы яе.
А слязінкі мае — на шчацэ — у яе.
Прытуліўшыся,
так і забылі,
што ўжо ногі
ў сумёце застылі!
На шчацэ у мяне
стынуць слоўкі яе...
А крывінкі мае —
на шчацэ у яе.
Прыгарнуўшыся,
так і забыты.
І даўно ўжо
да дрэваў— прыбіты...
Галаву ёй на грудзі цяпер палажу.
Мы ў маленстве ляжаць так любілі.
Каб ніхто не пачуў,
ёй адной раскажу,
як дачку нізавошта тут білі.
Стынуць нары.
Тайга, быццам коўдра, ў хляве.
Як баранчык ахвярны...
ўкручуся ў яе.
*Лагер "Эльген", 1944*

**Ціха спяюць пра нас**

Скажам — спявайце! —
цудоўнай парой напрадвесні.
Свайго дачакаемся часу і мы.
Калі будзе свята...
Свята лагернай песні,
думак і мар, і надзей Калымы!
Ціха спяюць пра нас.
Скрытна і скупа.
Колецца праўда,
як грані штыхоў...
Толькі з-пад снегу

чарнеюцца трупы,
нібы шматкроп'е
Песні вякоў...
*Бальніца "Левы Бераг", 1945*

### Цугам — людзі...

Цугам — людзі.
Ламаюцца крокі.
За спіною з аўчаркаю — спец.
Снег рыпучы.
Анёл светлавокі.
Зоркі ў неба — укінуў сявец.
Стогнуць дрэвы.
Ламаюць сцежку.
Ліпкім болем крывяніць смала.
Сцяўшы зубы, хаваю — ўсмешку.
На назе ў мяне, кажуць, была...
ра-на!..
*Лагер "Эльген" 1947*

**ххх**

Толькі як абыйсці гэты шэраг?..
На прыцэле не я, а народ.
Брэх аўчаркі.
Ўсе мы — на прыцэле.
У пакутаў тайгу — хросны ход.
Толькі як — ў гэты шэраг не трапіць?
На прыцэле —
не грудзі. Спіна.
Захінае дачку сваю маці.
Тут свая, са сваімі, вайна.
Толькі як прамінуць гэты лагер?
Пад снягамі і я, і народ.
За харугвамі ўсе.
За — сцягамі...
Хросны зноў пачынаецца ход.

## Дарога з келлі святой Еўфрасінні

Вяртаючыся з Полацка у Спарту,
У гэты грэх, у тлумную душу,
Я на пергаменце, што вырваны з асфальту,
Сваю любоў свабодай напішу.
 Ляціць аўтобус праз чужыя ночы...
І хруст крыла...О, Маці, блаславі
Хоць раз пабыць на найсвяцейшых мошчах
Адно маленькай кропелькай крыві.
Ляціць аўтобус горда і бяссіла,
О, Найсвяцейшая, на хлебе і агні
Пяром з крыла святога Гаўрыіла
Мне сэрца, Маці, сёння разапні.
І я прыйду да ўсіх, каго ў трызненні
Прыбачыла, замерзлая, ў снягах....
Прымі ж мяне,
        бы колісь на калені
 Ўзяла ЯГО з высокага крыжа.
І я прыйду да ўсіх, каго у мроях
Убачыла, прыбітая да дрэў...
Здымі ж з укрыжавання ўсіх нас, Маці...
О Найсвяцейшая...

**ххх**

Стаім, як свечкі на вятрах тваіх, радзіма.
 Ад Янкі....
            Алаізы...
              І — Максіма.
 Гарым, як свечкі,
           між снягоў, Айчына.
Святога Духа у імя...
                  Айца і Сына.

Калі ў снежаньскім нумары часопіса “Полымя” за 1997 і ў бюлетэні Усебеларускага жаночага фонда Еўфрасінні Полацкай “Жанчына. Планета. Будучыня” за 1999 гг. з’явіліся публікацыі Лесі Беларускі пад назваю “Малітва да Калымы”, цяжка было прадбачыць такую ўзрушаную рэакцыю

літаратурнай грамадскасці. Даволі інтрыгуюча прагучала і біяграфія Ларысы Марозавай, расказаная калымскім вязнем, украінскім паэтам В. А. Малагушам. І хаця многае пакуль не падцвярджаецца архіўнымі росшукамі, шчыра веру ў тое, што ён сапраўды сустрэў прыгожую беларуску ў лагеры "Эльген". А ў хуткім часе даведаўся, што арыштавалі тую на вяселлі; тады ж забралі і маладога афіцэра Аляксея Марозава. Сказана было, што беларуская настаўніца Марозава займалася яшчэ эзатэрыкай і прадбачаннямі, таму перад высылкай на Калыму адбываліся ў яе сустрэчы нават з самім Яжовым, які пасля апекаваўся прыгажуняй і ў лагеры. Аднак нічога не ўберагло ад знішчэння яе рукапісы. У лагеры ўсё напісанае строга кантралявалася і вышуквалася. Не захаваліся і рукапісы нашай "калымчанкі". Час пакажа, што ў расказе Малагушы праўда, а што — творчы вымысел, так як падчас нашай сустрэчы ён быў заняты празаічным творам і, мяркую, сумяшчаў факты памяці з мастацкім сюжэтам. І хаця напісанае беларускай "калымчанкай" не захавалася, Малагуша згадаў яе асобныя тэмы, выразы, а таксама геаграфічныя назвы і нават імёны жанчын з брыгады латышкі Алены Грубэ, дзе была адбывала ссылку і Ларыса Марозава. Менавіта ўсё гэта і падштурхнула мяне да незвычайнай працы — стварэння вершаванага цыкла "Малітва да Калымы", пададзенай у "Полымі" і фондаўскім бюлетэні пад псеўданімам Леся Беларуска з пазнейшай паметкай "Лісты з Эльгена". Дарэчы, паводле занатаванай са слоў Малагушы біяграфіі былая настаўніца з беларусі Марозава мела ў лагеры два псеўданімы: Эрынія і Леся Беларуска. Аднак мяне адразу ж натхніў другі з іх, што ўяўляўся дастаткова сімвалічна-абагульняючым. Згадваю, аднак, што знаёмства наша з Малагушам адбылося ў другой палове 1996-га на праваабарончым кангрэсе фонда святой Еўфрасінні Полацкай з прысутнасцю ўдзельнікаў з Беларусі, Украіны, Расіі, іншых краін. Тады і папрасіла я паэтэсу А.

Канапельку сустрэцца з Васілём Андрэевічам і занатаваць усё, што вядома таму пра нашу зямлячку. Прачытаўшы пасля тую біяграфію, заўважыла ў ёй залішне дэдэктыўную міфалагізацыю. Думаю, з цягам часу ўсё ж варта заняцца "калымскай" біяграфіяй бліжэй і мне, засяродзіўшы ўвагу на найбольш значных, праўдзівых, і, адначасна, абагульняючых момантах беларускай жаночай "Калымы". А. Канапелька прынесла тым часам зробленыя яе дасведчанай рукой запісы матываў Калымы. Праўда, былі яны ўжо вядомыя па іншых публікацыях — лесапавал, печка ў бараку, сяброўкі, сум па кінутых на радзіме дзецях, згадкі пра горад кахання... Асобныя павароты, штрыхі, словазлучэнні. Былі нават згадкі пра жаночае лідэрства, абарону чалавечых правоў, аднак гэта ўжо нагадвала антураж сучаснага жаночага руху і да тых саракавых ніякага дачынення не мела. Але вось — новая канферэнцыя, на якой адбылося ўручэнне медалю Святой Еўфрасінні Полацкай знакамітым жанчынам, у тым ліку, нашай Стэфаніі Станюце і ўкраінскай паэтэсе Ліне Кастэнка. Пра Лесю Беларуску і не згадвалася. І ўсё ж інтарэс да "калымскай тэмы" ўспыхнуў ува мне менавіта тады. І невыпадкова.

Ёсць у Ліны Кастэнка верш "Свіцязь". Якраз пабачыць гэтае возера кіеўская госця і зажадала на другі дзень канферэнцыі. Не буду распавядаць пра падрабязнасці тае незвычайнай "прыгоды." Але расказаць увогуле ёсць пра што. У машыне нас было чацвёра. Акрамя мяне, львавянка Н. Смаляна, Ліна Васільеўна і Х. Лялько за рулём. Аднаму Богу вядому, які хуліган паслабіў гайкі ў колах і падпіліў тармазы аўто... Але, як сказала тады Кастэнка, уратавала нас хіба што сама святая Еўфрасіння. Гэта быў сапраўдны шок. Менавіта ў тым абвостраным адчуванні смяротнай небяспекі душа неяк па-новаму адклікнулася на калымскую тэму, пераносячы літаратурныя асацыяцыі у тыя страшныя баракі і той віхор снегу, які пранізвае

чалавека да касцей. Здавалася, раптам пранікла, амаль у бяспамяцці, праз цемнату дзесяцігоддзяў у цынічна-бязлітасны свет, псіхалагічна "перасялілася" ў ледзяныя аковы, пачула блізкі брэх ваўкадаваў, убачыла над сабою цвікі і занесенны рукою вартавога ў бушлаце молат. Пасля публікацыі ў "Полымі" месяцы два моцна хварэла. Здаецца, недзе за месяц-два падборка Лесі Беларускі высвецілася ў душы і загучала на трагічнай ноце ўкрыжавання: "Толькі з-пад снегу чарнеюцца трупы, нібы шматкроп'е песні Вякоў", альбо "Цвік забівае хтосьці ў ногі мне. І ў галаву... І выцягнуць няможна." Быў якраз канец дзевяностых, калі многія па-новаму асэнсавалі духоўную спадчыну. Тады ж, пасля заснавання фонду Святой Еўфрасінні Полацкай, пачала пошукі свайго шляху да Храма і я... Праз колькі гадоў, пасля передруковак вершаў з "Малітвы да Калымы" ў беларускіх анталогіях і першых публікацый у перакладзе іх на рускую мову, напрыклад, пад назваю "Кремлевский орел и Эриния»(Масква, «Новая газета» номер 60, за 30 октября-5 ноября 2000 г.), падборка "Малітва да Калымы" займела сваё месца і ў маім новым зборніку "Свяча Любові"(2006). І ўсё ж колькі падагульняючых слоў пра Эрынію і Лесю Беларуску.

**Эрынія** — гэта цікавая, але пакуль яшчэ не не даведзеная да ладу біяграфія беларускай пакутніцы, якую некалі сустрэў на Калыме В. А. Малагуша.

**Леся Беларуска** — аўтарка тых навеяных, пасланых самім "Эльгенам" вершаў, што былі створаны мною ўжо ў нашым часе. Але менавіта праз іх прагучаў голас далёкіх ахвяр лесапавалаў, калі памяць душу народа прыбівалі да ледзяного крыжа гісторыі. Гэта — тыя дзесяткі і сотні пакутніц, што не змаглі вярнуцца, не мелі магчымасці спраўдзіцца, але — не зніклі! Сакральна, па незразумелых яшчэ людзям, законах, яна даверыліся "чужому" пяру і ўвасобіліся ў "Малітве да Калымы", што дапраўды стала іх

агульным ПОМНІКАМ. Іх нябачнай, але заўжды такой адчувальнай ПРЫСУТНАСЦЮ ў нашым часе. І — пазачасава. Ёсць у Лесі Беларусцы і кропелькі душы Л. Геніюш, Я. Бяганскай, Пфляўмбаум...Магчыма, калі-небудзь знойдуць сярод архіваў нават справа ўяўнай Ларысы Марозавай. Магчыма, знойдзецца і літаратурная спадчына каго-небудзь з тых сотняў і тысячаў ахвяр. Але “Малітва да Калымы”, веру, застанецца своеасаблівым літаратурным аблiччам скрываўленых ільдоў. Дзіўнае сталася. Не адно цікавая біяграфія папярэднічае літаратурнаму матэрыялу, а хутчэй — наадварот. Моцны паэтычны падмурак стаў своеасаблівай біяграфіяй Пакутніцы эпохі. Паводле меркавання Алега Лойкі, які прыняў удзел у мінулагодняй дыскусіі, праведзенай штотыднёвікам “Літаратура і мастацтва”, асоба Лесі Беларускі проста не магла не з’явіцца. А таму: “Хай жа творчасць, што нібы прыпісаная ёй, і не яе, хай жа гэтая творчасць застаецца ў гісторыі... Гэтым мы толькі ўзбагацімся...” І ўсё ж яны — былі! Дзесяткі. Сотні-тысячы. І — адзінкі! Жылі сярод ільдоў, цярпелі здзекі і катаванні. І ні на хвілю не забывалі свае радзімы, складаючы ёй песні нават у калымскім пекле такога няпростага дваццатага стагоддзя... Хто ж яна, тая, каму ў сваім дваццатым, але — ў гэтым свеце жывых мне даверана было стаць двайніком?..

Адказ — адзін. **ЛЕСЯ БЕЛАРУСКА**

**Валянціна КОЎТУН**

**11. XI 2008**

ЗМЕСТ

лёна.
Адчыняецца брама.
 Стрыжы пачынаюць палёт.
Адпраўляюцца ўдалеч шпалеры сівых легіёнаў
Праз дзве тысячы год,
          апантаныя тысячы год...
Але штораз вяртаюся – тым маладым салажонкам
(праз цябе і ў табе), што бяссмерця не ведае ўзлёт.
І нацягнуты лейцы, рыпяць дарагія пастронкі,
...ўжо дзве тысячы год,
           спалымнелыя тысячы год.
Вырываецца рэўнасць праз кратаў зламаныя косці.
Ну, а ты ў дздзень хаўтурны
Спяшаешся зноўку ў паход,
Проста голас мяняеш, ці нават сыходзіш у госці,
Як калісь Магдаліна...
               таму ўжо дзве тысячы год
І як своб
Дка любові, як знак пераспелага лета,
Попел мой ападае
На твае валасы уразлёт...
Ці не так сустракаюць канец перажытага свету
Ўжо дзве тысячы год,
Уваскрослыя тысячу год!..

**Аўгустс Штраўс ( Латвія)**

**Камень**

Камень, помню цябе
Даўняй памяццю продкаў і доўгіх стагоддзяў.
Будзеш ты і пасля... як не стане мяне...
Застанешся у вечнасці кропкай.
Зразумеў я і ўведаў надломы эпох.
Толькі, камень, адужаць цябе я не змог.
Палыны у чало тваё корань пусцілі здаўна,
Тут дзяўчаты звівалі вянкі дацямна
І сплятаўся з валошкамі выцвілы мох.

...Выплываю з глыбіняў касмічных віроў,
І іду, дзе гараць скрыжаванні вятроў
З тых эпох, калі з каменя волаты сок выціскалі.
Нават некалькі кропель на шлях мой упалі...
Ці не з іх валуны ьвырастаюць ізноў?
Не спачыць... Не заснуць.
Я хачу гэты камень дрымотны звярнуць.
Ён і сам, небарака, жадае спазнаць летуценні.
Толькі ў нерушы той, у задумлівых спратах зняменні,
Ўкамянела зямля. Не зірнуць з-за цябе, не дыхнуць...
Т а м, у мроях, я ведаю, неба без хмар.
Тут — гадуюцца пчолы і млее папар...
Камень... Зрушу цябе сілай слоў і натхнення!
Трэба ж, трэба зрываць і раструшчваць каменне,
Каб круціўся лягчэй
Наш зямны растрывожаны шар...

**Матс Траат (Эстонія)**

**Слоўнікавы запас**

Слова сабе.
Слова табе.
Вечнасці – трэцяе
У ім растапнее ўсё
Тры словы даюцца
Прыходзіць адно застаецца другое
Застаецца другое
А трэцяе ўсё закрэслівае
Колькі ж слоў пустых
Вазьму цябе за руку
Пазірні ў вочы
Памаўчы
Альбо выкажы колькі слоў
Растварыся
Растапней
У табе вясна
За гарамі
Выратаванне

Застаецца нешта

Цякуць малюнкі, як рэкі,
Вочы прыплюшчы!
Пачуцці слабеюць, чырванеюць павекі
    ад непагадзі
Хто міма вярбіны ўсквeтненай не пажадае
прайсці, чалавекі?
Вуркоча шпачок, і песня дразда
Паўсюль галасае.
Гукамі поўніцца магма ваколля
і шчасця — недастае.
Калі ўсё было, засталося нешта...
    не адразу
нешта адкрыецца нанова,
паралель альбо вечнасць,
альбо зазубец,
альбо глыбінная сэрца сутнасць,
што ўрываецца
    стромай жарсці
        неўспатольнай?

**Барбара Грушка-Чыж ( Польшча)**

*** * ***

свету няма
ёсць вада
    што намывае зямлі
вецер што зрывае
    аслоны з раслін і людзей
дрэвы што змяняюць
    колеры часін году
час які не застаецца
    ў наступнай хвіліне
кроў
затрыманая табою ў маім сэрцы

* * *

пільнуе мяне
  рэчаіснаці пёс
    у халодным пакоі
скімліць

над парогам
аб місцы з вадой

* * *

Маю цябе ў позірку маім
Маю цябе ў слыху маім
Маю цябе на беразе вуснаў...
Вагаюся...
Ці крануцца
хвяляю языка?

* * *

вецер над морам
раздзімае хвалямі сівізну
і не старэе ніколі
нараджаючыся штораз наноў

**Валянціна Радзінска (Балгарыя)**

**Усё**

Усё кладзі...
Пульсары дня і ночы,
І з венаў кроў, якую п'е арол,
птушыны піск і вір вады прарочай,
І волі цень... Усё кладзі на стол!
На стол – распяцце, свечак воск самотны,
Сакавіка люмінесцэнтны бляск,
Дзіцячы плач і стогн перадсмяротны,
Укрыты снегам ачышчальны час.
Усё – на стол... Каб да канца – грамадай ...
Пад небам, што атручана хлуснёй!
... Мы пропелам стаем.
Чаму ж так здрадна
Маўчыш, народзе,
ўскілзаны гайнёй!?
Душа не стол... — архіў, што адкрывае
Абрыс нянавісці і інквазітны крыж...
О Бацькавіна! Як яна палае...
А ты, народзе, ты, народ, маўчыш.
Усё на стол. Пачэрканыя мапы,
Балгарскі вецер, крылы і асцё.
На стол – напісанае... І мячы. І страты,

І памяць нашу, каб – на ўсё жыццё.

**Матыў**

Любілі, ненавідзелі, кахалі...
Але ніколі – ні ў дабры, ні ў зле, —
Сябры, са мной вы побач не стаялі.
Любілі. Ненавідзелі... Але...
Не ваша я. Не пражыла – нічога.
Няхай плыве жыцця майго пара
У берагах дабра і зла людскога.
Не ваша я. Ні маці. Ні сястра.
Наіўная, сама мінала ўдачу.
Лічыла вас то братам... То сястрой...
І вось цяпер стаю... Сцяною плачу...
Пакутаў вашых вырасла гарой.
Як Санча Панса вашага вар'яцтва...
Я – нічыя. Ні маці... Ні дзіця.
Спасцігла сэнс высокага сваяцтва:
Я толькі госць.
Я – толькі госця у жыцця...
Сябры мае. Да гнёздаў учарашніх
Вы ўсе з майго сыходзіце двара.
Ды – ведайце,
што ў Дзень той Судна-Страшны
Я ўстану ўсіхная.
І маці. І сястра...

**Агульны змест зборніка
“ Свяча любові”**

***I. Лірыка***

**Дзённікі жыцця**

**У водбліску свячы**

Псалма да Багародзіцы пра абарону
Псалма ўдзячнасці
Псалма суцяшальная
Супроць друду і хлусні
....Супроць жарсці
Пакаяльная
Самотная.
...супроць чужасці
Ізыдзі!( супроць нячыстага)

***II.Паэмы чакання***

**"На беларускім бітым шляху"**
***Памяць***
На зломе маланкі. Паэма.
...Выйду з сэрцам... Маналог.

Ці ветру сон, ці посвіст кулі..."

*На безыменнай вышыні*
А Прыпяць не спыніць... Паэма
Лісты да маці
Балада пра "Асенні сон"
Трыпціх калыханкі
Сонца
Балада белай лілеі
Ястрабок
Чарацінка чакання. Паэма
Балада франтавога медалю
Балада чорнага золата
Жыццё
***Няхай наш свет не зрушыцца....

***III. Пераўстварэнні***

***Малітва да Калымы***

**Леся Беларуска**
Малітва да Калымы
*** Зрадніцца ў час які змаглі...
Ефрасінні Полацкай
Рэпліка таёжнага філосафа
***Нас выбірайце ў лідэры

**Ліна Кастэнка ( Украіна)**
***Паслухаю свой дождж...
Ван Гог
*** Асенні сум...
Маці
*** Ужо смяецца...
Скіфская баба
***Стаіць у ружах...
Іма Сумак
Сучасная баркарола
*** Такі чужы...
***Патаемнаю думкай...
*** Ты зноў прыйшла
Пасаж болю
****О чарадзей
Лейтматыў шчасця
***Рыпучы сне...
*** Я вельмі цяжка....
*** Хай будзе лёгка
*** Вачыма ты сказаў...
Брэйгель. “Шлях на Галгофу”
*** Шукайце цэнзара...
*** Як холадна...
*** Не ведаю, ці ўбачу...
*** Ляцяць да долу...
Трамплін для соснаў і снягоў
*** Чакаю дзень....
*** Не трэба думаць так мізэрна...
Астральны войк
*** Зацішак. Прыцемак...
*** Ввыходжу ў сад...
** Якая розніца...
** О як цябе забыць...
*** Маё каханне...
***Напіцца голасу...
Зонька
**Раман Лубкіўскі ( Украіна)**
***Ўсё гэта музыка...
**Наталля Смаляна (Украіна)**
*** Яго нама....

**Габдула Тукай (Татарстан)**
Родная мова
Татарскай моладзі
**Васіле Недзялеску ( Малдова)**
***Палосяць неба вогненныя пугі
Крэда
**Альгімантас Балтакіс (Літва)**
Панначкі маёй маладосці
***Ах, гэтыя дні...
***У каго ты пераўтварывлася, мама?
**Яўгеніюш Алішанка (Літва)**
***... ўжо дзве тысячы год
**Аўгустс Штраўс (Латвія)**
Камень
**Матс Траат (Эстонія)**
Слоўнікавы запас
**Барбара Грушка-Чыж (Польшча)**
***Свету няма...
*** Пільнуе мяне...
*** Маю цябе ў позірку маім
Вецер над морам
**Валянціна Радзінска ( Балгарыя)**
Усё
Матыў

ФОТАЗДЫМКІ

ЛІРЫКА

**сшытак I.** (Дзённікі жыцця)

1. Маладыя бацькі 1946.
2. З аднакурсніцамі па Львоўскім універсітэце
3. Студэнцтва (ЛДУ імя І. Франка) - з Сяргеем Панізнікам.
4. Першыя творчыя сустрэчы. З Караткевічам, Янішчыц, Стральцовым, Жыдліцкім.
5. Настаўніца Варнянскай СШ на Астравеччыне 1969
6. З бабуляй Крысцінай і цёткамі — сяброўка Жэня Янішчыц 1969
7. Аўтарка першага зборніка “Каляровыя вёслы.” 1971.
8. Падчас працы ў “Сельскай газеце” 1971
9. Брат Аляксандр са Святланай Кліменценка 1971
10. Сямейнае. З сынам .
11. З мужам Георгіем і дзецьмі 1980
12. Аўтарка зборніка “На ўзлёце дня”. 1977
13. Бацькі Міхаіл Фядосавіч і Анна Раманаўна з унучкай

**сшытак II.** (У водбліску свячы)

14. На фестывалі творчай моладзі ў Арменіі
15. . Малюнак Нэлі Счаснай. На фестывалі творчай моладзі ў Арменіі. 1980.
16. Аўтарка зборніка “На зломе маланкі”. 1981
17. У гасцях у львоўскага паэта Уладзіміра Лучука.
18. З Арленам Кашкурэвічам і Сяргеем Красікавым у “ Караліішчавічах”.
19. Падчас напісання зборніка “Метраном”.
20. Аўтарка кнігі “Святло народнага слова” 1984.
21. Вільня. У “Беларускай хатцы”.
22. На з’ездзе пісьменнікаў- з Л. Геніюш, У. Караткевічам, Д. Бічэль, Н. Мацяш
23. У гады напісання рамана “Крыж міласэрнасці”.
24. Разам з землякамі на Піншчыне.
25. Адкрыццё музея ў Рэчыцы.
26. На беразе Сожа
27. З маладымі чытачамі ў Мазыры
28. З зямлячкамі на беразе Піны ( Пінск)
29. Выступленне ў “ Варнянскай зхатцы” ( Астравеччына)

30. З землякамі ў Рэчыцы.
31 На беразе Піны.
32. Разам з дзецьмі і ўнукам Ягоргіем.

**сшытак III.** (З Роду Еўфрасінні.)
33. У бібліятэцы імя Яўгеніі Янішчыц.
34. На Свята-Еўфрасінеўскіх чытаннях.
35. Віцебск. Адкрыццё бібліятэкі імя Св. Еўфрасінні Полацкай.
36. На першым Усебеларускім жаночым форуме
37. Творчы семінар фонду Св. Еўфрасінні Полацкай ( З А. Фядутам, С. Законнікавым , С. Алексіевіч)
38. Сярод чытачоў "Варнянскай хаткі" на Астравеччыне
39. Падчас напісання рамана-жыція " Пакліканыя"
40. Вечарына з Н. Гілевічам і літоўскімі паэтамі.
41. Перад уваходам у царкву. Полацк.
42. Рым. Размова з Янам Паўлам II.
43. Пасля Агульнанароднага дня Св. Еўфрасінні Полацкай.
44. У мамы Жэні Янішчыц.
45. Рым. Гаворка з Янам Паўлам II
46. Разам з сямейнікамі ўСвята-Петра-Паўлаўскім саборы.

ПАЭМЫ ЧАКАННЯ.
47. Па дарозе на радзіму Цёткі.
48. Падчас адкрыцця помніка Цётцы ў Шчучыне.
49. Па дарозе на радзіму Цёткі.

ПЕРАЎСТВАРЭННІ

50. З Нілам Гілевічам і гасцямі з Літвы.
51. Вашынгтон. З амерыканскімі сяброўкамі.
52. Уручэнне медалю Св. Еўфрасінні Полацкай Стэфаніі Станюце. 1998
53. З Наталляй Смаляной 2003
54. Падчас свята ў Львове
55.Слухаючы Матса Траата і Альгіманта Балтакіса 2004
56. З перакладчыцай Альмай Лапінскене. 2004
57. Сярод гасцей паэтычнай вясны ў Вільнюсе. 2004
58. У Івана-Франкоўску. Незабыўная зіма.
59
60. Юбілейныя кветкі. 1996